## КУТОК ГАСПАДЫНІ

# ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

У апошнім нумары мы шмат гаварылі пра мёд, які раілі ўвясці ў штодзённы рацыён для кожнага чалавека: ад груднога дзіцяці да дарослых і старых людзей.

Мёд найлепш ужываць у натуральным выглядзе: мазаць на хлеб з маслам, дадаваць да кіпячонай вады з лімонам ды піць і г.д. Але можна з мёду рабіць вялікія прысмакі. Сёння мы рашылі падзяліцца з вамі адным з іх. Падаем рэцэпт на дасканалы, нештодзённы

### МЯДОВА-АРЭХАВЫ ТОРТ

Торт гэты асабліва раім зрабіць, калі якраз у каго-небудзь выпадзе ўрачыстасць, а асабліва, калі гэтая ўрачыстасць датычыцца дзяцей (мёд ім патрэбны, а арэхі — адвечны іх прысмак).

Для торта найлепш узяць круглую форму — тартоўніцу, але можна таксама зрабіць яго ў форме прадаўгаватай ралады.

Цеста для торта падрыхтоўваецца вельмі проста: 10 дэкаў (100 г) мёду, 3 сырыя яечкі, 25 дэкаў (250 г.) мукі, 5—10 дэкаў (50—100 г) змеленых арэхаў, 10 дэкаў (100 г) цукровай пудры і 1 чайную лыжачку соды або парашку да пячэння дакладна размешваем, каб атрымалася адналітая маса.

Цяпер на тартоўніцы альбо на прадаўгаватай бляшцы (калі мы вырашылі зрабіць раладу) трэба спячы з атрыманай масы тонкія бліны (яны атрымліваюцца адразу цвёрдыя). Тартоўніцу альбо бляшку, каб атрымаліся бліны такія, якія павінны быць, трэба толькі памазаць цестам, каб роўна прыкрыць дно бляшкі. Цеста аднаразова не павінна быць замнога.

Спечаныя раней бліны на 24 гадзіны перад падачай на стол перакладваем крэмам, які робім наступным спосабам.

15 дэкаў (150 г) масла, 5 альбо 10 дэкаў змеленых арэхаў і 25 дэкаў (250 г) цукру дакладна расціраем, каб маса атрымалася вельмі пульхная, амаль, як пена.

На адной шклянцы малака варым будынь (малочны кісель). Будыню трэба ўзяць паўпачкі, найлепш каб быў ванілінавы, альбо да сметанковага дадаць палову палачкі ваніліну, які трэба дробна пакроіць. Пасаладзіць будынь і астудзіць яго.

Астуджаны будынь трэба дадаваць пакрысе да масла, расцертага з цукрам і змеленымі арэхамі, расціраць усё, не спяшаючыся, а пасля гэтага дадаць яшчэ сок з цэлага лімона.

Зрабіўшы торт, добра было б палажыць наверху на крэме палавінкі валошскіх арэхаў.

Гарантуем, што торт атрымаецца не паспаліты, а смаку яго няхай пазайздросціць найбольш вытворны бісквітны торт.

**Гаспадыня**



**Гітлераўцы марылі прайсці па маскоўскіх вуліцах і плошчах — яны прайшлі па іх 17 ліпеня 1944 года, але не як пераможцы, а як пераможаныя. На здымку: 57600 нямецкіх ваеннапалонных, захопленых Савецкай Арміяй пад Мінскам, канваіруюцца праз Маскву.**

# НЕМЦЫ СТРАЦІЛІ КАЛЯ 600 САМАЛЁТАЎ

Дваццаць пяць гадоў таму назад закончылася II Сусветная вайна, найбольш крывавая вайна ў гісторыі чалавецтва, — вайна народаў. Пачаткам яе з'явіўся напад гітлераўскай Нямеччыны на Польшчу ў 1939 годзе. Мала хто ведае, што польская ваенная авіяцыя нанесла сур'ёзныя страты нямецкай Люфтвафе. Гітлераўскае камандаванне кінула два паветраныя флоты супраць Польшчы, разам каля тысячы васьмісот самалётаў. З таго ліку збітых было каля шасцісот, кожны трэці.

Польскі паветраны флот складаўся з 433 самалётаў, у большасці добра ўзброеных і абсталяваных нярэдка лепш, чым нямецкія. Упярэдадзень выбуху вайны польскае камандаванне перамясціла ўсе самалёты на сакрэтныя аэрадромы. Першыя налёты Люфтвафе былі налётамі на пустыя аэрадромы, на якіх былі ўстаноўлены для непазнакі непрыдатныя самалёты, спісаныя на лом. Толькі ў панядзелак, 4 верасня, немцы разгадалі падман і правялі налёт на ваенны сакрэтны аэрадром у Куцінах, дзе знаходзіўся дзесяты дывізіён бамбардыроўшчыкаў. Знішчана тады два самалёты тыпу «Лось». Берлін тым часам даўно ўжо раструбіў цэламу свету аб поўным знішчэнні польскай ваеннай авіяцыі.

Люфтвафе правяла ўсяго пяць налётаў на раскрытыя ваенныя аэрадромы. Страты, прычыненыя ў выніку тэтых налётаў, не былі значнымі. Асноўныя сілы польскай ваеннай авіяцыі заставаліся ў цэласці. Найбольшы нямецкі налёт меў месца на аэрадроме ў Гайдуках, на ўсходзе. Тады разбіта семнадцаць «Карасёў», лінейных самалётаў. Разам немцы за ўсю вайну разбілі на аэрадромах 24 польскія самалёты, інакш кажучы — пяць працэнтаў усіх. Такая праўда.

Польскія лётчыкі мужна змагаліся супраць агрэсараў. У паветраных баях загінула 325 самалётаў. Знаходзіліся яны амаль бесперапынна ў палётах, каб хоць крыху абмежаваць разбоі велізарнай Люфтвафе. Трэба сказаць, што нямецкія страты ў авіяцыі аказаліся значна большымі, чым польскія страты. Характэрна, што толькі 19 польскіх самалётаў было збіта нямецкай зенітнай артылерыяй. Гінулі яны ў непасрэдным змаганні з нямецкімі крыжамі на польскім небе.

Змаганне польскіх лётчыкаў дало б большыя вынікі, калі б існавала на аэрадроме добрая тэхнічная база: варштаты, запасовыя часткі, патрэбная колькасць механікаў. Здаралася так, што з трох выпрацаваных самалётаў складалі адзін. Наглядаўся таксама некаторы балаган у аперацыйнай службе самой арміі, якая памылкова збіла аж 33 свае разведчыя самалёты.

У Румынію эвакуавана 98 прыдатных самалётаў. Самых лётчыкаў за ўсю вайну загінула каля пятай часткі. Амаль усе, што засталіся жыць, прабраліся на Захад, у Францыю. Затым, пасля разгрому Францыі, якая ўпала на калені хутчэй, чым меншая ад яе Польшча, польскія лётчыкі прабраліся ў Англію, у Паўночную Афрыку, дзе ў першай фазе вялікай вайны былі амаль галоўнай сілай аліянцкай авіяцыі: яны абаранілі Англію.

(а-ся)

## Літаратурныя гульні

### ШТО ТУТ ЗАШЫФРАВАНА?

На малюнку зашыфравана страфа з паэмы М. Танка «Пражскі дзённік». Каб прачытаць яе, трэба знайсці першы кружок і рухацца ад яго па гадзіннікавай стрэлцы, кожны раз прапускаючы аднолькавую колькасць кружкоў.




Адказы прысылайце па адрасу: Redakcja tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Wesołowskiego 1 да 21.V.1970 г.

Сярод тых, хто прышле правільныя адказы разлясуем кніжныя ўзнагароды.

Развязка з 16 нумара «Нівы» ад 19.IV.70 г:

Шчасце так не даецца,
І яго не купіць.
Шчасце сеецца, жнецца,
Шчасце ў кузнях куецца,
У мартэнах кіпіць!

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| ШЧ 79 | АС 88 | ЦЕ 97 | ТА 50 | КН 59 | ЕД 68 | АЕ 77 |
| ЧЧ 87 | АІ 96 | ЯГ 56 | ОН 58 | ЕК 67 | УП 76 | ІЦЬ 78 |
| ШЧ 95 | АС 55 | ЦЕ 57 | СЕ 66 | СЦ 75 | ЦА 84 | ЖН 86 |
| СЦ 54 | ЦА 63 | ШЧ 65 | АС 74 | ЦЕ 83 | Ў 85 | КУ 94 |
| ЗН 62 | ЯХ 64 | КУ 73 | ЕЦ 82 | ЦА 91 | Ў 93 | М 53 |
| А 70 | Р 72 | Т 81 | Э 90 | Н 92 | А 52 | Х 61 |
| К 71 | І 80 | П 89 | І 98 | Ц 51 | Ь 60 | ! 69 |

За правільную развязку «Літаратурных гульняў» змешчаных у 12 нумары ад 22.III.70 г. кніжныя ўзнагароды вылясавалі: **С. Ляшэвіч — Орля; Б. Мялешка — Барысаўка; Р. Савіцкі — Шчыты; В. Ваўрэшук — Збуч; Я. Скепка — Заброды; М. Данілюк — Камень; І. Плуг — Кошкі, О. Грэш — Арэшкава; М. Карнілюк — Спічкі; І. Мойсік — Парцава; І. Баўсюк — Мастаўляны; М. Місеюк — Яцэвічы; В. Літвінюк — Якубова; А. Панфілюк — Дубічы Царкоўныя; Л. Вавульская — Беласток; Н. Антанюк — Стрыкі; Д. Срачынская, Я. Леўчук — Войшкі, Я. Грыгарук — Зубава; М. Васілюк — Дубічы; Т. Корч — Тафілаўцы; А. Хомчык — Новы Востраў; Ю. Баена — Мокрэ.**

**Рэдагуе А. Карпюк**

## Чвэрць стагоддзя назад




Бургдорф зноў узяўся за тэлефонную трубку. З бамбасховішча адказалі, што Гітлер усё яшчэ сядзіць за чаем, Бургдорф у суправаджэнні Фегелейна і Гюншэ адразу накіраваўся туды, каб далажыць Гітлеру аб паведамленні Крэбса. Вартавыя з асабістай аховы Гітлера і службы бяспекі, якія стаялі на пастах ля бамбасховішча, са здзіўленнем паглядзелі на Бургдорфа і Гюншэ, якія з'явіліся ў такі ранні час. Бургдорф папрасіў далажыць Гітлеру, што ў яго ёсць важнае данясенне, Гітлер адразу выйшаў у прыёмную, дзе чакалі Бургдорф, Фегелейн і Гюншэ. Як заўсёды, калі да Гітлера прыходзілі з нечаканым дакладам, выраз яго твару быў насцярожаны. Бургдорф далажыў:

— Мой фюрэр! Толькі што званіў Крэбс. У чатыры раніцы пачалося наступленне рускіх на Одэры.

— Дзе? — Гітлера перасмыкнула.

Бургдорф адказаў, што пасля ўраганнага агню рускай артылерыі магутныя рускія танкі і пяхота пачалі наступаць па ўсім фронце. У некаторых месцах пад прыкрыццём цемры рускія спрабавалі фарсіраваць Одэр. Яны вядуць упартыя атакі з прадмесных умацаванняў на заходнім беразе Одэра ў раёне Кюстрына. Гітлер спытаў аб далейшых падрабязнасцях, у прыватнасці, аб тым, ці выведзены своечасова войскі з-пад агню рускай артылерыі, Бургдорф адказаў, што падрабязнасцей Крэбс не паведаміў.

Гітлер учапіўся рукамі ў спінку крэсла. Ён стараўся скрыць сваё хваляванне. Мускулы яго твару сутаргава перасмыкнулі. Ён кусаў губы, што з'явілася ў яго прыкметай вялікага хвалявання. Затым ён спытаў:

— Якая гадзіна?

— Дваццаць мінут шостага, — адказаў Гюншэ.

Гітлер зноў звярнуўся да Бургдорфа:

— Далажыце мне неадкладна, калі паступяць новыя данясенні. Нават калі скажуць, што я лёг. Я ўсё роўна не буду спаць. Скажыце, каб мяне зараз жа злучылі з Крэбсам. Я хачу пагаварыць з ім сам.

Затым Гітлер вярнуўся ў свой кабінет, дзе знаходзіліся Ева Браун і сакратаршы.

У данясеннях, якія паступалі на працягу раніцы, паведамлялася, што рускія вядуць атакі на ўсіх участках фронту і што некаторыя прарывы мясцовага значэння ўдалося ліквідаваць.

Гітлер лёг, але не спаў. Ён некалькі разоў выклікаў Лінге і прасіў яго даведацца ў Бургдорфа або Іагагнмеера[1]), ці няма новых данясенняў з Одэра. Бургдорф і Іагагнмеер, якія падтрымлівалі ўвесь час тэлефонную сувязь з Крэбсам, паведамлялі, што яснай карціны ўсё яшчэ няма, бо сувязь, пашкоджаная агнём рускай артылерыі на некаторых участках фронту, яшчэ не адноўлена.

У гэты дзень, 16 красавіка, Гітлер назначыў дзённую нараду а палове трэцяй. Перад пачаткам нарады ў прыёмнай бамбасховішча Гітлера сабраліся Герынг, Дэніц, Кейтэль, які, пераймаючы некаторых франтавых генералаў, зняў са сваіх штаноў чырвоныя генеральскія лампасы з прычыны блізкасці фронту. Іодль, Крэбс, Колер, Бургдорф, Буле, Вінтэр, Крысціан, Вагнер, Фос, Фегелейн, Хевель, Лорэнц[2]), ад'ютанты Гітлера і некалькі афіцэраў генштаба. Яны стаялі групамі, гучна і ажыўлена размаўляючы аб наступленні рускіх войск на Одэры, якое пачалося на досвітку. Усе выказвалі спадзяванне, што фронт на Одэры ўстаіць.

У прыёмную ў суправаджэнні Бормана са свайго кабінета выйшаў Гітлер. Усе адразу змоўклі, застылі на сваіх месцах і ўзнялі для прывітання рукі. Гітлер хутка прывітаўся за руку з Герынгам, Дэніцам, Кейтэлем, Іодлем і Крэбсам. Ён спытаў у Крэбса:

— Ёсць у вас дакладная карціна падзей на Одэры?

Крэбс адказаў:

— Так, мой фюрэр.

З астатнімі Гітлер прывітаўся кіўком галавы і прайшоў з Крэбсам у пакой нарад. Усе пайшлі за ім. З прычыны наступлення рускіх на Одэры ўдзельнікі нарады з'явіліся ў поўным саставе, у пакоі было вельмі цесна, і некаторым афіцэрам генштаба і ад'ютантам давялося застацца ў прыёмнай. Пакой для нарад змяшчаў не больш як 20 чалавек.

Крэбс пачаў свой даклад з агляду становішча на Одэры. Ён далажыў, што наступленне рускіх удалося спыніць. Вядуцца жорсткія баі, прычым нямецкія войскі, як і рускія, кідаюць у бой тысячы танкаў і гармат. Крэбс падкрэсліў, што наступленне рускіх з самай раніцы бесперапынна падтрымліваецца дзеяннямі авіяцыі. Крэбс далей далажыў, што ў некаторых месцах фронту рускія ўклініліся ў нямецкую абарону. Там супраць іх вядуцца контратакі. Галоўны ўдар рускіх накіраваны з прадмеснага ўмацавання на заходнім беразе Одэра на раён, што на захад ад Кюстрына. Пераправа рускіх войск і наводка мастоў падаўляецца артылерыяй.

Крэбс, паказваючы на карце, далажыў, што рускія з палавіны дня, пасля артылерыйскай падрыхтоўкі, з новай сілай працягваюць наступленне і што становішча нямецкіх войск асабліва ў раёне на захад ад Кюстрына, даволі напружанае. Гітлер устаў з крэсла і здаўленым голасам прамовіў:

— Мы павінны ў што б там ні стала вытрымаць першыя атакі рускіх. Калі фронт скранецца, тады ўсё будзе страчана.

Ён загадаў Крэбсу зараз жа даведац-

# ТРЫБУНА чытачоў

## РАЗМОВЫ АБ СЕЛЬГАСГУРТКАХ

На Гайнаўшчыне вартасць машын у сельскагаспадарчых гуртках перавышае 55 мільёнаў зл. Дзяржава правяла меліярацыю на 9813 га і загаспадаравала 9240 га зялёных угоддзяў. 82% вёсак у Гайнаўскім павеце электрыфікавана, а таксама шэраг іншых аб'ектаў, якія маюць вялікі ўплыў на развіццё сельскай гаспадаркі. Пакуль што дрэнна прадстаўляецца справа з сеўнікамі для рассявання мінеральных угнаенняў. Ёсць іх у сельгасгуртках 85 конных, 30 штук трактарных і 17 раскідальнікаў да вапны. Гэтую сітуацыю пагаршае яшчэ і той факт, што невялікая колькасць успомненых машын недастаткова выкарыстоўваецца. У мінулым годзе 24 сельскагаспадарчыя гурткі і 2 машына-трактарныя базы ў палявых працах і транспарце не выпрацавалі мінімальнай нормы — 1000 гадзін у год на адзін трактар.

Аб усіх праблемах сельскагаспадарчых гурткоў на Гайнаўшчыне многа гаварылася на павятовым з'ездзе прадстаўнікоў сельгасгурткоў 12 красавіка 1970 года.

**Тэкст і фота Віталіс Назарук**



**Старшыня павятовага з'езда сельгасгурткоў у Гайнаўцы Мікалай Астапчук з вёскі Кавела. Гэта малады гаспадар скончыў курс сельскагаспадарчай падрыхтоўкі.**



**Выступае з прамоваю старшыня гуртка вясковых гаспадынь з Кляшчэль Софія Згет.**

## НОВЫ КЛУБ

Ад студзеня т.г. у вёсцы Шчыты ў Бельскім павеце працуе клуб. Сюды асабліва вечарам, штодзённа збіраюцца людзі. Моладзь цяпер мае дзе збірацца, мае дзе арганізаваць культурныя мерапрыемствы. (сс)




**Дарагое Сэрцайка!**

Маю я вялікую бяду з валасамі. Не ведаю, ад чаго яны выпадаюць, мо ад лупежу, якога не магу пазбыцца. Раілі мне людзі ўсялякія сродкі да мыцця галавы, аднак нічога не памагала. Што рабіць, каб валасы не выпадалі?

А можа купіць сабе так званую «пэруку» ці што там? Мне ж толькі 23 гады! Але дзе купіць? Парай.

**Галя з Беластоцкага павета**

**Галя!** Валасы выпадаюць іменна ад лупежу. Гэта хвароба валасоў. Таму найлепш было б, каб ты пайшла да лекара-дэрматолага, які параіць табе, што рабіць. Праўда, у драгерыях і перфумерыях можна набыць усялякія сродкі супраць лупежу і выпадання валасоў, дык можаш паспрабаваць. Раю табе раз на месяц зрабіць наступную адж্ыўку для валасоў: узяць адзін жаўток, 5 дкг свежых дражджоў і бутылачку рыцыны (дастанеш у аптэцы, каштуе 5 зл). Усё гэта добра размяшаць дадаючы да гэтага 2—3 кроплі якога-небудзь шампону, і добра ўватры ў скуру галавы. На пасмараваную галаву надзень гумовы чэпак або кавалак цэлафану і абвяжы ручнікам на 2 гадзіны. Потым галаву вымый. Рабі так раз у месяц. Валасы ўзмоцняцца, набяруць прыгожага колеру. Такую адж্ыўку добра рабіць і на здаровыя валасы. Будуць прыгажэйшыя. Можаш таксама ў драгерыі купіць нямецкую адж্ыўку да валасоў за 14 зл (толькі калі будзеш купляць, папрасі адж্ыўку да ператлушчаных валасоў) пад назвай «Londestral». Вельмі добрая.

Пішучы пра «пэруку», напэўна ты думала аб дапінцы, г. зн. валасах, якія жанчыны прышпільваюць да сваіх, і тады выглядае так, як бы былі прыгожыя густыя валасы. Цяпер вельмі модныя. Пры тваіх валасах можаш сабе купіць. Аднак купіць дапінку ў цырульніка — гэта вельмі дарага (ад 400 да 1000 зл. і больш). Тады раю табе зрабіць інакш. Мо хто-небудзь з тваіх сваякоў, сястра ці цётка, маюць схаваную касу, якую калісьці адрэзалі. Калі не, дык проста ў каго іншага папрасі, на вёсцы ж гэтага нямала. Колер абыякавы, можна пафарбаваць. Прывязі ў горад і аддай цырульніку зрабіць і пафарбаваць. Зрабіць дапінку — каштуе ад 100 да 300 зл. у залежнасці ад колькасці валасоў. У такім выпадку толькі шыццё валасоў будзе каштаваць.

**Сэрцайка**

## З ГІСТОРЫІ ШКОЛЫ Ў ШЫМКАХ

Дзяржаўная школа ў Шымках існуе ад 1905 года. Першым настаўнікам быў Лаўрэн Новік з Лукі. Было тады 3 класы. Настаўнік вучыў цэлы дзень. Абавязкаў навучання не было. Да 1905 года ў Шымках вучыліся дзеці прыватна. Вучыў там раней 7 год Сільвестар Дзун.

У гады санацыйнай Польшчы ў Шымках было 4 класы. Вучылі 2 настаўнікі. Тады трэба было вучыцца ў трэцім класе 2 гады, а ў чацвёртым класе 3 гады. Сямікласная школа была толькі ў Ялоўцы, адна на ўсю гміну. У 1939 годзе ў перыяд савецкай улады пачаткова было ў Шымках 5 класаў. Вучылі 4 настаўнікі, гэта значыць, я і тры — з усходняй Беларусі. Пасля вызвалення ад нямецкіх захопнікаў у 1944 годзе ў верасні я зноў пачаў вучыць у Шымках. Было тут 5 класаў, у якіх вучылася 110 дзяцей. Вучыў пачаткова толькі адзін я, на дзве змены. Пасля сталі працаваць у нашай школе Янка Гайдучэня і Янка Повільч. У 1947 годзе вучылася ў Шымках у школе 285 вучняў. Цяпер там ёсць 8 класаў з 215 школьнікамі. Ходзяць сюды ў старэйшыя класы дзеці з Лявонавіч, Цісоўкі, Буд, Бахуроў і нават з Навасад. (Пэўны час, на працягу 5 год, у Цісоўцы было таксама 7 класаў).

На працягу 25 год пачатковую школу ў Шымках і Цісоўцы закончыла 602 вучняў. Не закончыла пачатковай школы 182 асобы і гэтыя маладыя людзі вучыліся на вечаровых курсах. Многія выпускнікі шымкаўскай пачатковай школы пайшлі вучыцца далей. Вышэйшыя школы закончыла 54 асобы, няпоўныя вышэйшыя — 22, сярэднія — 105 асоб, прафесіянальныя школы — 168 асоб. Яшчэ вучыцца ў розных тыпах школ — 95 чалавек. Многа моладзі выехала на працу ў розныя гарады Польшчы. На гаспадарцы засталася 101 асоба.

Былыя выпускнікі Шымкаўскай пачатковай школы авалодалі многімі прафесіямі. Спецыялістаў па сельскай гаспадарцы і лясніцтве налічваецца 32 чалавекі (6 інжынераў), у ахове здароўя — 32 чалавекі (8 лекараў), у будаўніцтве 37 чалавек (6 інжынераў), у войску і міліцыі 22 чалавекі (10 афіцэраў), у прамысловасці 87 асоб (15 інжынераў), у асвеце працуе 55 чалавек, у гандлі 29 чалавек, ва ўстановах шляхоў зносін 44 чалавек (4 маракі), у радах нарадовых — 17 чалавек.

На працягу 25-ці год народнай улады ў Шымках змянілася амаль усё, змяніліся нават людзі, змяніўся выгляд вёскі. Ёсць тут цяпер пункт аховы здароўя, пункт скупу жывёлы, сядзіба ГРН, пабудаваны вясковыя крамы.

Да вайны, за гады санацыі, у раёне вёсак Шымкі і Цісоўка на працягу 20 год пачатковую 7-класную школу закончылі толькі 24 чалавекі. У сярэдняй школе вучыўся толькі Янка Гайдучэня. Закончыў ён настаўніцкую семінарыю ў Свіслачы.

Як бачым з вышэй паданых лікаў, у Шымках наступіў вялікі прагрэс.

**Васіль Дзун**
Гайнаўка

## ІВАН КІРЫЛЮК

Пісьманосец Іван Кірылюк працуе на пошце ў Дубічах Царкоўных. Яго кожны дзень чакаюць жыхары вёсак Грабавец, Еленка і Чэхі Арлянскія. Прывозіць ён чаканыя лісты і розныя паведамленні. У сваёй вялікай сумцы развозіць па гэтых вёсках таксама 66 экзэмпляраў «Нівы», якую чакаюць многія чытачы. (мх)

## НЕЗАДОЎГА СЯЎБА

ПОМ-ы і сельгасгуртковыя майстэрні ў прыспешаным тэмпе праводзяць рамонт машын. У кавалёў таксама звал работы. І плугі, і бораны, і вазы, і спружыноўкі, і іншыя сельскагаспадарчыя прылады рамантуюцца. Незадоўга сяўба аўса. А за ім іншыя культуры трэба сеяць. І таму да гэтай вясковай кампаніі рыхтуюцца ўсе сяляне. (сс)

## НОВЫ БРУК

У вёсцы Скраблякі (Беластоцкі павет) не праз усю вёску быў пракладзены брук.

Толькі ў гэтым годзе, дзякуючы супольным намаганням старшыні ГРН у Зубках, солтыса Стэфана Лісоўца і жыхароў вёскі Скраблякі, пачаліся работы пры пракладцы бруку на незабрукаваным адрэзку вуліцы.

**Янцал**

## ЖАНЧЫНЫ З ХАРОШЧЫ

Гурток вясковых гаспадынь у Харошчы мае невялікі харавы калектыў з вельмі цікавай праграмай. Гэты калектыў падрыхтаваў спецыяльны рэпертуар на з'езд сельскагаспадарчых гурткоў Беластоцкага павета, які адбыўся 7 красавіка ў Беластоку. Песні і вершы, з якімі выступілі жанчыны, тэматычна былі звязаны з жыццём сялян, працай сельгасгурткоў і дзейнасцю працаўнікоў павятовага праўлення сельгасгурткоў. Асабліва выдзялялася з калектыву самадзейнікаў сяброўка Кондзяр. Яна сапраўды па-майстэрску «адстаўляла» сатырычныя нумары праграмы.

**М. Краўчук**

ца, як развіваюцца баявыя дзеянні пад Кюстрынам. Крэбс са сваім ад'ютантам Фрэйтагам фон Ларынгхофенам выйшаў з пакоя для нарад да тэлефона. Ларынгхофен тут жа вярнуўся і папрасіў дазволу ўзяць са стала аператыўную карту фронту на Одэры, каб нанесці на ёй новае становішча. Пакуль Крэбс званіў у Цосен, у штаб-кватэру сухапутных сіл, Герынг, Дэніц, Кейтэль і Іодль запэўнівалі Гітлера, што атакі рускіх войск на Одэры будуць адбіты.

Гітлер зноў указаў на тое, што асабліва важна вытрымаць першыя дні наступлення і прымусіць рускіх панесці вялікія страты. Кейтэль і Іодль гаварылі ў тон Гітлеру. Яны пачалі прыводзіць прыклады з першай сусветнай вайны, калі ў аперацыях з вялікім насычэннем ваюючых войск тэхнічнымі сродкамі барацьбы праціўнік дзякуючы стойкасці нямецкіх салдат мог прасунуцца наперад толькі на некалькі метраў і ўрэшце сцякаў крывёю.

Крэбс і Ларынгхофен вярнуліся ў пакой для нарад праз некалькі мінут. Гітлер паглядзеў на іх з надзеяй, і як толькі на стале зноў расклалі карты, ён схіліўся над імі. Амаль па ўсёй лініі фронту былі праведзены чырвоныя стрэлы, якія азначалі атакі праціўніка. Пад Кюстрынам рускія войскі ўжо глыбока ўклініліся ў абарону немцаў. Крэбс далажыў, што на захад ад Кюстрына рускім удалося на вузкім участку прабіцца праз усю глыбіню абароны. У сувязі з гэтым становішча на гэтым участку яшчэ больш абвастрылася. На ўсіх астатніх участках фронт працягвае трымацца. Камандуючы групай армій на Одэры генерал-палкоўнік Хейнрыці лічыць неабходным у раёне на захад ад Кюстрына адысці, каб прадухіліць расшырэнне прарыву.

У Гітлера вочы палезлі на лоб. Ад гневу на лбе ў яго нацягнуліся жылы. Ён закрычаў:

— Не, мы не адступім ні на адзін метр! Калі мы і на Одэры не ўтрымаемся, то дзе ж яшчэ? Прарыў ля Кюстрына ліквідаваць сёння ж! Перадайце гэты загад неадкладна!

Так запісаў Гюншэ загад Гітлера. Але ці можна было яго выканаць?

**(Працяг будзе)**

---

1) Адзін з ваенных ад'ютантаў Гітлера.

2) Тут пералічваюцца ўдзельнікі штодзённых аператыўных нарад у Гітлера: Герынг, як галоўнакамандуючы ВМФ, грос-адмірал Дэніц, начальнік штаба вярхоўнага галоўнакамандавання (OKB) генерал-фельдмаршал Кейтэль, начальнік штаба аператыўнага кіраўніцтва OKB генерал-палкоўнік Іодль, начальнік генеральнага штаба генерал пяхоты Крэбс, начальнік галоўнага штаба ВПС генерал авіяцыі Колер, галоўны ваенны ад'ютант Гітлера і начальнік упраўлення кадраў генерал пяхоты Бургдорф, начальнік штаба сухапутных сіл пры OKB генерал пяхоты Буле, намеснік Іодля генерал-лейтэнант Вінтэр, адмірал пры штабе ВМФ контр-адмірал Вагнер, асабісты прадстаўнік СС пры стаўцы групенфюрэр СС Фегелейн, прадстаўнік міністра замежных спраў пры стаўцы Хевель, прадстаўнік нямецкага інфармацыйнага бюро пры стаўцы Лорэнц.

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Hugo i Józefina" (szwedzki), 12—13. „Zwariowałeś Toni" (czeski), 14—15. „Dożyjmy do poniedziałku" (radz.), 16—17.

**Нараўка**

„Między wrześniem a majem" (polski), „Stawka większa niż życie" (polski), 13—17.

**Нарва**

„Trzy dni Wiktora Czernyszewa" (radz.), „Stawka większa niż życie" (polski), 13—17.

**Чыжы**

„Partyzant z Lelejskiej góry" (jugosł.), „Stawka większa niż życie" (polski), 13—17.

**Дубічы Царкоўныя**

„Alfa, Romeo i Julia" (węgierski), „Zjazd rodzinny" (węgierski), 13—17.

**Арэшкава.**

„273 dni poniżej zera" (polski), „Rzeczpospolita babska" (polski), 13—17.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Winnetou" (jugosł.), III s. „Jedyna szansa" (NRD), 13—17.

**Орля**

„Kochałem cię" (radz.), „Stawka większa niż życie" (polski), 13—17.

**Райск**

„63 dni" (polski), „Wyzwanie dla Robin Hooda" (ang.„ 13—17.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Міхалова**

„Casanova znad Dunaju" (węgierski), 12—13. „Włoch w Argentynie" (włoski), 14—15. „Czekam w Monte Carlo" (polski), 16—17.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Po wielkiej burzy" (szwedzki), 12—13. „Sami swoi" (polski), 14—15. „Adolf" (franc.), 16—17.

**Янаў**

„Szepczące ściany" (ang.), 13—17.

**Шудзялава**

„Przygoda z piosenką (polski), „Trzy klucze" (jugosł.), 13—17.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Taki duży chłopiec" (radz.), 12—13. „Włoch w Argentynie" (włoski), 14—15. „Nowy" (polski), 16—17.

**Мельнік**

„Pociągi pod specjalnym nadzorem" (czeski), 12—13. „Wyspa na lądzie" (węgierski), 14—15. „Znicz olimpijski" (polski), 16—17.

**Мілейчыцы**

„Kopciuszek w potrzasku" (franc.), 12—13. „Naczelnik Czukotki" (radz.), 14—15. „Znicz olimpijski" (polski), 16—17.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Gra" (polski), „Toast" (polski), 13—17.

**Новы двор**

„Lalka" (polski), „Alfa, Romeo i Julia" (węgierski), 16—17.


# Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto I Oddziału Rejonowego PUPiK „Ruch" NBP Nr 150-6-161 w Białymstoku. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23 Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. W-3 Nakład 7422




